**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 18 (839) 5 траўня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by


# Вольнае Глыбокае



**З 20 па 30 красавіка на тэрыторыі Віцебскай вобласці прайшла прафілактычная акцыя з удзелам расійскага аўтобуса-трэнажора «Школа дарожнай бяспекі».** Працяг тэмы на стар.4. *Фота Ул. Скрабатуна.*



## Пенсіі за 9 і 10 мая ў Беларусі выплацяць датэрмінова

**У Беларусі пенсіі за 9 і 10 мая выплацяць датэрмінова, паведамілі БЕЛТА ў РУП "Белпошта".**

Датэрміновая выплата пенсій (дапамог) за 9 мая ў аддзяленнях паштовай сувязі "Белпошты" будзе ажыццяўляцца з 5 мая ў аддзяленнях паштовай сувязі (АПС) Магілёва, Бабруйска, Мінска, з 6 мая – ва ўсіх АПС Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай абласцей. Пенсіі і дапамогі за 10 мая пачнуць выплачваць з 6 мая ў АПС Магілёва і Бабруйска, з 7 мая - ва ўсіх АПС Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай абласцей. Ва ўсіх АПС Гомельскай вобласці выплата пенсій (дапамог) за 9 і 10 мая будзе праводзіцца 7 мая. Аб рэжыме работы АПС можна даведацца ў кол-цэнтры РУП "Белпошта" па нумары 154.

*БелТА.*

## Пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце ў Беларусі вырасла на 13 млрд рублёў

На 1 траўня пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце ў Беларусі склала 80,9 млрд рублёў, што на 12,9 млрд больш, чым на 1 красавіка. Пратэрмінаваную запазычанасць мелі 167 арганізацый, якія абследуюцца, супраць 151 месяцам раней, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт.

Больш за ўсё арганізацый-даўжнікоў у **Віцебскай вобласці — 133.** У Мінску такіх арганізацый 11, Магілёўскай — 9, Гродзенскай — 8, Мінскай — 5, Гомельскай — 1.

Лідыруюць па колькасці даўжнікоў сельская гаспадарка (132), будаўніцтва (16) і прамысловасць (15).

*telegraf.by*



ISSN 2077-8023



### Докшыцкі раён

# Сцеражыся ... БТР

■ Станіслаў Раманчук.

**У гэтым годзе няўстойлівае надвор’е вельмі сур’ёзна паўплывала на ход веснавой сяўбы ў вобласці і правесці яе ў аптымальныя тэрміны не атрымалася.**

Праўда, на фоне іншых раёнаў Прыдзвіння ў няпростай сітуацыі Докшыцкі справіўся з гэтай задачай, калі іншыя толькі напалову выканалі заданне па сяўбе ранніх зерневых і зернебабовых. Частыя дажджы і халады тут таксама перашкаджалі палявым работам, але збояў было значна меней у Бярэзінскім краі, чым у суседзяў. Адныя з першых прыступілі да сяўбы па меры паспявання глебы ў сельгаспрадпрыемстве “Таргуны”, дзе не марудзілі і своечасова ўзаралі пад яравыя культуры 800 гектараў палеткаў. Усё, што залежала ад мясцовых механізатараў, людзі зрабілі па-гаспадарску, падкармілі таксама азімыя з рапсам. Настрой у вяскоўцаў яшчэ больш палепшыўся, бо ў гэты час на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі адкрыла па ініцыятыве дырэктара Анатоля Бальшунова ўласны магазін прадуктаў ААТ “Таргуны”. За некалькі месяцаў у пуставаўшым памяшканні былога комплекснага прыёмнага пункта быў зроблены патрэбны рамонт, закуплена патрэбнае гандлёвае абсталяванне. Новую краму падключылі да кацельні ЖКГ і яна стала папулярнай у мясцовых жыхароў. Прываблiваюць людзей сюды прымальныя цэны дзякуючы гандлёвай нацэнцы ў памеры толькі 2-х працэнтаў і шырокі асартымент прадуктаў. Акрамя хлеба з хлебазавода райцэнтра шырока прадстаўлена прадукцыя мясакамбінатаў Глыбокага і Мёраў, малочныя прадукты Лепельскага і Глыбоцкага МКК, з якімі заключаны дагаворы паставак. Неўзабаве кожны жадаючы зможа набыць тут і ўласныя мясапрадукты і нават дыетычнае мяса трусоў, якіх пачынае вырошчваць гэта гаспадарка.

### Ушацкі раён

# Гэта трэба нашчадкам

■ Кастусь Александровіч

**Кожны год праводзімы рэспубліканскі суботнік прыцягвае значныя сродкі на важныя аб’екты і на добраўпарадкаванне мясцін, звязаных з падзеямі Другой сусветнай вайны.**

Значную частку грошай, зробленых 23 красавіка ў Віцебскай вобласці, было вырашана накіраваць на заканчэнне рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу “Прарыў”, што ва Ушацкім раёне. Сам гэты абноўлены мемарыял з вялізнай фігурай партызана пасярод двух быццам перакуленых расколатых глыб будзе ўрачыста адкрыты напярэдадні святкавання Дня Перамогі. Але тут неабходна было яшчэ выканаць шмат работ па добраўпарадкаванні і навядзенні парадку на прылягаючай тэрыторыі. Таму ў гэту мясцовасць паблізу райцэнтра ў дзень суботніка высадзіўся вялікі дэсант памочнікаў з абласнога цэнтра на чале з кіраўніком вобласці Мікалаем Шарснёвым. Не толькі кіруючыя работнікі аблвыканкама, але главы абласных славых структур, віцебскіх прадпрыемстваў і арганізацый працавалі на мемарыяле разам з мясцовымі жыхарамі. Гэты велічны помнік з’яўляецца адным з самых значных твораў айчыннага манументальнага мастацтва, унесены ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі. Ён стаў сапраўды народнай будоўляй, паколькі тут пахавана каля паўтысячы партызан і мірных жыхароў, якія загінулі падчас прарыву з фашысцкай блакады. На адноўленых 33 гранітных плітах таксама ўвекавечаны для нашчадкаў прозвішчы 1450 нашых землякоў, якія загінулі тут у гады крывапралітнай вайны. Галоўнае, што ў сціслыя тэрміны ўдалося выратаваць мемарыял ад разбурэння і практычна захаваць арыгінальную задуму. Побач з ім з’явіцца сучасная зона адпачынку для турыстаў з прыгожай падсветкай ноччу.

### Пастаўскі раён

# Расці, рыбка, расці!

■ Чэслаў Якубовіч.

**Як і ў хлебаробаў падчас веснавой сяўбы, штогод у гэту пару года наступае адказная пара ў айчынных рыбаводчых гаспадарках.**

Вось і ў Пастаўскім раёне буйнейшы на Віцебшчыне рыбгас “Навінкі” сёлета ўжо зноў змог у аптымальныя тэрміны правесці зарыбленне сваіх асноўных прудоў. Усяго гэта спецыялізаванае прадпрыемства мае сем вялікіх вадаёмаў для вырошчвання карпу і таўсталобіка, а таксама крыху шчупака. Аднак згодна з тэхналогіямі, адна з такіх сажалак раз у чатыры гады не павінна запаўняцца вадой і патрабуе прайсці своеасаблівую рэабілітацыю. Таму і ў гэтым годзе вадаём прастойваць не будзе. На ім пасеялі на плошчы 102 гектары яравую пшаніцу, набытую ў вядомай гаспадарцы ААТ “Навасёлкі-Лучай”. Восенню там збяруць ураджай збожжа, які пойдзе на кармленне вырошчваемай рыбы. Пакуль жа работнікі рыбгаса запоўнілі маленькай рыбай астатнія шэсць сажалак агульнай плошчай каля 700 гектараў. На новае месца жыхарства было дастаўлена сёлета 150 тон уласных гадаванцаў вагой ад 40 да 250 грам, колькі важаць карпы-двухгодкі. А як толькі пацяплее і вада прагрэецца да плюс 14 градусаў, то рыбу пачнуць інтэнсіўна карміць спецыяльным камбікормам з усімі неабходнымі пажыўнымі рэчывамі. Да восені ў рыбгасе разлічваюць атрымаць ужо каля тысячы тон таварнай рыбы. На продаж мясцовы карп пойдзе ўжо вагой у сярэднім каля кілаграма. Па эфектыўнасці гаспадарання рыбгас з Пастаўшчыны выйшаў у лік самых лепшых у Беларусі і толькі летась прадаў спажыўцам 944 тоны рыбы ўласнай гадоўлі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 05.05.16 | | | | Пятніца 06.05.16 | | | | Субота 07.05.16 | | | | Нядзеля 08.05.16 | | | | Пан. 09.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +13 | +16 | +13 | +9 | +13 | +17 | +14 | +11 | +14 | +20 | +17 | +12 | +15 | +21 | +17 | +12 | +17 | +21 |
| Ціск | 753 | 755 | 754 | 754 | 754 | 755 | 753 | 752 | 753 | 754 | 753 | 754 | 755 | 757 | 756 | 756 | 757 | 757 | 755 |
| Вецер м/сек | 3 С | 4 С-В | 5 С-В | 3 С | 2 С | 3 С | 5 С | 3 С-В | 4 С-В | 6 С-В | 5 С-В | 5 С-В | 3 С-В | 2 В | 2 Ю-В | 2 В | 2 Ю-В | 1 З | 2 З |
| Вільготнасць | 87 | 69 | 37 | 56 | 87 | 77 | 41 | 54 | 64 | 69 | 40 | 54 | 80 | 77 | 40 | 63 | 86 | 69 | 36 |

# Аб самым надзённым

## Увод у эксплуатацыю праз 2 гады АЭС у Астраўцы толькі дабавіць эканамічных праблем для Беларусі



■ Аляксандр Цішкевіч.

**А асноўная праблема ў тым, што Беларусі ўжо зараз не трэба мець столькі электраэнергіі, колькі яе мы будзем выпрацоўваць у бліжэйшы час. На нашу бяду, суседнія краіны Польшча і асабліва Літва не збіраюцца купляць беларускую электраэнергію, бо яны неўзабаве падключаюцца да адзінай энергасістэмы ЕС.**

У наш час жыццё стала вельмі дынамічным і не заўважаеш звычайна, як чарговы працоўны тыдзень праляцеў. Таксама наша краіна даволі хутка канчаткова вызначылася з павышэннем з 1 студзеня 2017 года пенсійнага ўзросту. Па гэтаму пытанню беларусы нават апярэдзілі ўпершыню сваіх суседзяў і саюзнікаў з Расіі і раней іх вызначылі, што паэтапна нашы жанчыны будуць станавіцца пенсіянеркамі ў 58 гадоў, а мужчыны выходзіць на заслужаны адпачынак – у 63. У гандлёвых кропках краіны з’явіліся побач са звыклымі вялізнымі цэнамі і новыя цэннікі на тавары ў рублях і капейках, а таксама каляровыя плакаты з відамі новых беларускіх грошай, каб насельніцтва хутчэй прывыкала да ліпеньскай маштабнай дэнамінацыі нацвалюты.

Здаецца, яшчэ пазаўчора пачыналі ў нас узводзіць самую маштабную навабудоўлю, атамную электрастанцыю ля Астраўца, а пройдзе зусім нямнога часу і ўжо ў 2018 годзе там будзе запушчаны ў эксплуатацыю яе першы энергаблок магутнасцю 1,2 мегават. Услед за гэтым неўзабаве стане дзейнічаць і наступны блок Беларускай АЭС. Калі будзе ўсё, як намячалася, а мяккія зімы спрыяюць паскарэнню тэмпаў работ на гэтым аб’екце, то ў 2020 годзе магутная станцыя выйдзе на праектную магутнасць і будзе вырабляць 39,9 млрд. кВт/гадзін электраэнергіі, што складае каля 40 % энергетычных рэсурсаў, што зараз спажывае на свае патрэбы Беларусь.

Гэтаму фактару, здавалася, можна было толькі радавацца, бо штогод наша краіна будзе эканоміць каля 5 млрд. кубаметраў прыроднага газу, якога патрабавалася раней на выпрацоўку электраэнергіі. У рэальнасці, ужо зараз у кіраўніцтва краіны пачала “балець” галава, куды дзець столькі энергіі, бо рэальна ўтворыцца яе прафіцыт у аб’ёме 14 мільярдаў кілават. Справа ў тым, што апошнім часам сітуацыя ў энергетычнай сферы кардынальна памянялася: сусветныя цэны на важнейшыя энерганосьбіты нафту і газ рэзка ўпалі.

Праўда, гэта на нас не адбілася, а беларускі ўрад так і не здолеў сёлета ўгаварыць расійскага манапаліста “Газпрам” знізіць для нашай краіны цэны на “блакітнае паліва” з цяперашніх 136 долараў за тысячу кубаметраў да справядлівых 80 $ з улікам кошту транспарціроўкі (на прасторах РФ яны знізілі ўдвая да 55-60 $ з улікам дэвальвацыі расійскай нацвалюты). Між тым, за ўзводзімую махіну Астравецкай АЭС Беларусі яшчэ прыйдзецца вярнуць Крамлю 10 млрд. долараў крэдыту. Потым яшчэ прыйдзецца несці траты на перапрацоўку адпрацаванага ядзернага паліва і ўтылізацыю радыёактыўных адыходаў. Спецыялісты ж сцвярджаюць, што і зараз на ТЭЦ цяпер стала выгадней выкарыстоўваць замест прыроднага газу на выпрацоўку энергіі.

А асноўная праблема ў тым, што Беларусі ўжо зараз не трэба мець столькі электраэнергіі, колькі яе мы будзем выпрацоўваць у бліжэйшы час. На нашу бяду, суседнія краіны Польшча і асабліва Літва не збіраюцца купляць беларускую электраэнергію, бо яны неўзабаве падключаюцца да адзінай энергасістэмы ЕС. Быццам гатовы купляць лішкі нашай энергіі эстонцы, але гэта краіна маленькая, аб’ёмы зусім нязначныя. Крызісная сітуацыя ў эканоміцы таксама не дабаўляе аптымізму, паколькі многія прадпрыемствы цяпер працуюць няпоўны працоўны тыдзень, не загружаны, выхад з рэцэсіі і эканамічнага спаду расцягнецца на некалькі гадоў.

Вось чаму глава беларускага ўрада А. Кабякоў стварыў спецыяльную рабочую групу з 14 спецыялістаў па вырашэнні ўзнікшых праблем АЭС з прафіцытам электраэнергіі, каб не дай Бог, не здарыўся энергетычны калапс (трэба ж некуды дзець, выкарыстаць млрд. кілават). Адзін э экспертаў у гэтай галіне, выканаўчы дырэктар асацыяцыі “Аднаўляемая энергетыка” У. Нісцюк папярэджвае, што прыйдзецца ў Беларусі замяняць цеплавозы на электравозы, электрыфіцыраваць усю сістэму Беларускай чыгункі, пераводзіць многія прадпрыемствы на начны графік працы, праводзіць і іншыя мерапрыемствы, на якія спатрэбяцца немалыя сродкі.

Іншая справа, што з дадатковымі грашовымі масамі ў беларускай казне зараз няпроста, адчувальна прасеў і продаж за мяжу айчынных калійных угнаенняў. Значна меней сталі зарабляць мы і ад экспарту нафтапрадуктаў, а астатнія нашы тавары дрэнна разыходзяцца па свеце. На гэтым фоне пачалі дзейнічаць у краіне новыя абмежавальныя меры па ўвозе ў Беларусь замежных тавараў для асабістага карыстання. Аднак можна не сумнявацца, што кардынальна яны слаба паўплываюць на вырашэнне больш глабальных праблем, адна з якіх пазбавіцца немінуемых цяжкасцей для эканомікі пасля заканчэння будаўніцтва АЭС, самай грандыёзнай будоўлі на беларускай зямлі пачатку гэтага стагоддзя.

## Дзень за днём

**Да высокай інфляцыі ў краіне дабавіўся і рост непрацяжоў, які пагражае беларусам дэфолтам. Ва ўрадзе Беларусі прызналі пагаршэнне эканамічнай сітуацыі, на 16 трлн. рублёў зарэзервавалі расходы дзяржбюджэту. Парадак выдачы пенсій працуючым пенсіянерам застанецца ў Беларусі ранейшым. Міністэрства аховы здароўя не будзе дазваляць продаж лекаў праз інтэрнэт. Зацвердзілі новую дзяржпраграму будаўніцтва жылля да 2020 года. У наступным 2017 годзе ў Беларусі адбудзецца пасяджэнне ПА АБСЕ. Для беларускіх курыльшчыкаў зноў падаражэлі цыгарэты. Беларускі выбілі жаночую зборную Расіі з эліты сусветнага тэнісу.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Прэзідэнт ЗША Б. Абама заявіў, што санкцыі з Расіі будуць зняты толькі тады, калі яна выканае поўнасцю дамоўленасці па спыненні ваеннага канфлікту ва Украіне.

**Іран.** Урад краіны прапанаваў дыктатару Сірыі Б. Асаду палітычны прытулак з сям'ёй, але ненавісны многімі сірыйцамі прэзідэнт адмовіўся ад такой паслугі.

**Расія.** У Савеце Федэрацыі РФ пацвердзілі, па звестках РБК, што Масква і Кіеў дамовіліся да канца мая абмяняць лётчыцу Н. Саўчанка на двух палонных расійскіх ГРУшнікаў.

**Сербія.** На парламенцкіх выбарах упэўнена перамагла праеўрапейская кааліцыя партый "Аляксандр Вучыц – Сербія перамагае", яна імкнецца да членства ў ЕС.

**Турцыя.** Прэзідэнт Р. Эрдаган выказаў спачуванні родным асманскіх армян, якіх шмат загінула ў 1915 годзе падчас Першай сусветнай вайны, іх забілі тады 1,5 млн. чалавек.

**КНДР.** Улады адыёзнай краіны размясцілі ў дэмілітарызаванай зоне з суседняй Карэяй яшчэ 300 новых рэактыўных сістэм залпавага агню, якія агнём могуць накрыць Сеул.

Украіна. У акупіраваным Крыме Расія пачала перараблять ваенны палігон Чауда пад свой марскі палігон Паветрана-касмічных сіл РФ для дыслакацыі далёкіх бамбардзіроўшчыкаў.

**Азербайджан.** Міністэрства абароны паведаміла аб паспяхова адбітай атацы ноччу армянскіх танкаў у Нагорным Карабаху, там рэжым спынення агню парушаўся 108 разоў.

**Малдова.** Падчас сутыкненняў у Кішынёве пацярпелі 14 паліцэйскіх, за апошні год у краіне змяніліся 6 прэм'ер-міністраў, але акцыі пратэсту перыядычна паўтараюцца.

**ЗША**. Федэральны суд дазволіў судзіць двух былых ваенных псіхолагаў, якія распрацавалі для ЦРУ сістэму катаванняў палонных у турмах падчас допытаў, яе ўжо адмянілі.

**Польшча.** Урачы ўніверсітэцкай клінікі Вроцлава дапамаглі нарадзіцца хлопчыку праз 55 дзён пасля смерці яго хворай на рак маці дзякуючы найноўшаму абсталяванню.

**Англія.** Вучоныя-медыкі Кардыфскага ўніверсітэта выявілі, што прыём малых доз аспірына павялічвае на 20 % шанцы хворым пацыентам вылечыцца ад раку.

ЗША. З-за нібыта ўскладненняў пасля грыпу альбо перадазіроўкі наркотыкаў ва ўзросце 57 гадоў памёр сусветна вядомы музыкант і спявак Прынс, аўтар многіх песень-хітоў.

**Нарвегія.** Адразу 256 святароў прыгразілі Сіноду пакінуць службу ў лютэранскіх храмах з-за прынятага ім рашэння аб царкоўным вянчанні аднаполых пар.

**Расія.** Паблізу Сызрані забілі сям'ю былога начальніка гарадской паліцыі з 6 чалавек, раней у бойцы смяротную траўму атрымаў адзін з музыкантаў вядомай групы "Любэ".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Міністэрства ЖКГ паказала, як будуць выглядаць новыя жыроўкі



■ FINANCE.TUT.BY

**«Жыроўка стала двухбаковай і больш простай для разумення», - паведамілі спецыялісты Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. На адным баку паведамлення цяпер указана інфармацыя аб налічанай плаце за жыллёва-камунальныя паслугі, на іншай - дадатковая інфармацыя па асабовым рахунку, жылога дома, расшыфроўка фактычных выдаткаў, піша БелТА.**

Нагадаем, што аб распрацоўцы новага «дызайну» для паведамленняў Мінжылкамгас заяўляў незадоўга да падпісання прэзідэнтам указа пра новыя тарыфы на паслугі ЖКГ. Міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Церахаў казаў тады, што плацёжка «напзўна, сапраўды перагружаная інфармацыяй, і гэта ў канчатковым рахунку дззаравіентуе спажыўца» і таму неабходная новая форма.

Абноўлены варыянт павінны былі падрыхтаваць да 1 мая 2016 года. Дарэчы, гэта ўжо другі рэдызайн жыроўкі ў гэтым годзе. Папярэдні варыянт паведамлення Міністэрства ЖКГ прадстаўляла ў пачатку лютага.

Першы намеснік міністра ЖКГ Алег Паскробка распавёў, што асобнымі блокамі будзе прапісаная аплата асноўных жыллёва-камунальных паслуг па тарыфах, асноўных ЖКП па тарыфах, якія субсідзіруюца, што забяспечвае поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат, дадатковых ЖКП і выдаткаў, якія кампенсуюцца.

Гэта значыць, радкі пра асноўныя ЖКП будуць візуальна падзеленыя на тры часткі, і чалавеку будзе прасцей разабрацца ў лічбах, убачыць, якія жыллёва-камунальныя паслугі ён спажывае звыш нормы.

Інфармацыя аб асабовым рахунку на адваротным баку жыроўкі будзе ўтрымліваць падрабязныя дадзеныя аб колькасці пражываючых у кватэры, плошчы памяшкання, паказаньнях прыбораў індывідуальнага ўліку расходу халоднай і гарачай вады, аб спажыванні па гэтых дадзеных.

З блока «Агульная інфармацыя па дому» спажывец зможа даведацца плошчу ўсіх жылых і дапаможных памяшканняў, колькасць зарэгістраваных у доме жыхароў, агульнадамавыя расход гарачай і халоднай вады, цеплазабеспячэння, электраэнергіі, што спажываецца на працу ліфта, на асвятленне дапаможных памяшканняў.

Таксама на адваротным баку з'явіцца блок з расшыфроўкай фактычных выдаткаў за месяц і радок аб узроўні пакрыцця насельніцтвам затрат па ЖКП у цэлым па краіне (сёння ён складае каля 40%).

На адваротным баку жыроўкі застанецца месца для актуальнай і карыснай інфармацыі: па графіках прамых ліній, пра тое, дзе ўтылізаваць батарэйкі, як пазбавіцца ад старога халадзільніка і г.д.

Акрамя таго, будуць свае асаблівасці ў жыровак у так званых пустых кватэрах (там, дзе ніхто не прапісаны).

Новую форму рахунак-паведамлення павінны зацвердзіць да 15 траўня. Друкаваць яна будзе на аркушы фармату А4 і стане аднолькавай для ўсіх беларусаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава прадстаўніцтва ЕС Андрэа Віктарын адзначыла важную ролю Беларусі ў рэгіёне, але ЕС будзе супрацоўнічаць з ёй з крытычных пазіцый з-за правоў чалавека.

**Астравец.** Дырэктар дэпартамента Міністэрства акружаючага асяроддзя Літвы А. Аугліс заявіў, што літоўцы лічаць узводзімую Беларускую АЭС небяспечнай і з-за сейсмалогіі.

**Мінск.** Глава МЗС У. Макей заявіў, што Беларусь і ЗША гатовы да поўнай нармалізацыі ўзаемных адносін, гэта заява выклікала глухое раздражненне Крамля.

**Баранавічы.** Пасля рамонту на 558-авіярамонтным заводзе ў Судан адправілі яшчэ адну групу бамбардзіроўшчыкаў СУ-24, усяго кантракт налічвае 12 ваенных самалётаў.

**Мінск.** Крызісная сітуацыя ў Беларусі, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, стала падобнай на пачатак 1990-х гадоў з-за масавага скарачэння вытворчасці, падзення заробкаў людзей.

**Крычаў.** З-за падзення попыту на прадукцыю з пачатку года на "Крычаўцэментшыферы" звольнілі больш 450 рабочых і служачых, але сітуацыя працягвае пагаршацца.

**Іўе.** Супраць старшыні аднаго з калгасаў раёна распачалі крымінальную справу за збіццё на планёрцы свайго намесніка, за злоўжыванне ўладай яму пагражае ад 3 да 10 год турмы.

**Мінск.** З пачатку года, як пацвердзіў аглядальнік belrynok. Ву К. Скуратовіч, беларускі экспарт у Расію скараціўся па 12 значных пазіцыях, за студзень месяц – яшчэ на 100 мільёнаў долараў.

**Брэст.** Вечарам цвярозы 36-гадовы жыхар Гродна не справіўся з кіраваннем свайго "Вольва" і на аўтобусным прыпынку нанёс цяжкія траўмы траім пасажырам.

**Свіслач.** Эканамічны суд Мінскай вобласці спыніў справу вадзіцеля І. Сапаненкі, якога абвінавачвала транспартная інспекцыя ў незаконным перавозе пасажыра ў сталіцу.

**Раўбічы.** Першы трэнер праслаўленай біятланісткі Д. Домрачавай Альберт Мусін пацвердзіў, што яна павінна ў канцы верасня парадзіць дзяўчынку, а пакуль у Нарвегіі.

**Смалявічы.** Разам з міністрам МУС сын кіраўніка краіны В. Лукашэнка адкрыў мотасезон прабегам ад Кургана Славы на дарагім "Харлеі" коштам звыш 55 тысяч долараў.

**Навагрудак.** Па праекту ЕС у Рэспубліканскі ландшафтны заказнік "Свіцязянскі" прыбыў першы электрычны аўтобус, яшчэ такі адзін аўтобус возіць турыстаў у Нясвіжы.

**Баранавічы.** З могілак вёскі Уцёс невядомы мярзотнік скраў ноччу гранітную агароджу адной з магіл, злодзею пагражае да 3-х гадоў турмы, калі яго адшукаюць.

**Мінск.** Прэзідэнт даў даручэнне, што пасля заканчэння рэканструкцыі сталічны стадыён "Дынама" стане шматфункцыянальнай спартыўнай пабудовай на 22 тысячы гледачоў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Аб'ём паставак нафтапрадуктаў на "Нафтане" і Мазырскім НПЗ сёлета крыху вырас, але ў грошах гіганты нафтахіміі страцілі ўжо 31,3 % з-за нізкіх цэн.

**Паставы.** На плошчы звыш 670 гектараў у рыбгасе "Навінкі" правялі зарыбленне 6 нагульных сажалак, куды запусцілі больш 150 тон пасадачнага матэрыялу рыбы.

**Віцебск.** Ураджэнка горада, 61-гадовая генерал-маёр паліцыі Т. Маскалькова стала ўпаўнаважанай па правах чалавека ў Расіі, яна прыхільніца ранейшых жорсткіх мер ВЧК.

**Полацк.** Міністэрства юстыцыі на зварот ТБМ адказала, што перанос у горад з Мінска сталіцы Беларусі магчымы толькі пасля прыняцця адпаведных змен у Канстытуцыі.

**Мёры.** Праз 7 гадоў на тэрыторыі раёна зноў прайшлі комплексныя вучэнні па пытаннях абароны насельніцтва і суб'ектаў гаспадарання пры ўзнікненні надзвычайных сітуацый.

**Віцебск.** З-за сваёй закаханай 54-гадовай супрацоўніцы адзін з мясцовых банкаў страціў каля млн. долараў, суд пакараў яе 4-мя гадамі турмы з адтэрміноўкай прыгавору.

**Наваполацк.** Абласная пракуратура распачала крымінальную справу супраць упраўляючага і галоўнага бухгалтара адной з фірм за ўрон "Нафтану" на 626 млн. рублёў.

**Докшыцы.** Епіскап Віцебскі А. Буткевіч правёў Богаслужэнне ў аднаўленай капліцы прыхода св. Юрыя (Георгія) у вёсцы Барсукі з нагоды штогадовага парафіяльнага фэсту.

**Глыбокае.** Суд раёна пакараў 3-мя месяцамі арышту 21-гадовага хлопца, які згубіў свой пашпарт, але схлусіў міліцыі аб нібыта крадзяжы дакумента, каб не плаціць штраф.

**Віцебск.** Дырэктар фестывалю "Славянскі базар" А. Сідарэнка паведаміў аб продажы больш 16 тысяч білетаў на канцэрты, на асноўныя іх практычна ўжо не засталося.

**Шаркаўшчына.** Старшакласнікі мясцовай СШ № 1 пасадзілі ў райцэнтры новую алею са 100 маладых ліп, саджанцамі і пасадачным матэрыялам школу забяспечыў райкамунгас.

**Лепель.** Міліцыя затрымала двух беспрацоўных злодзеяў, якія з дому ў вёсцы Матырына скралі канапу, два мяккія крэслы, стол і тумбачку і не паспелі мэблю прадаць.

**Докшыцы.** Праз гады пошукаў 80-гадовы жыхар Данецка Леў Смалякоў адшукаў магілу бацькі, маскоўскага апалчэнца і ўсклаў кветкі да помніка загінулым у вёсцы Барсукі.

**Ушачы.** За пагрозу забойства на падпітку з паляўнічай стрэльбы жонкі і суседзяў суд пакараў 55-гадовага жыхара вёскі Садкі штрафам у памеры 100 базавых велічынь.

**Браслаў.** Ініцыятыўныя гараджане пачалі талакой будаваць незвычайны дзіцячы атракцыён карабль-лабірынт, каб ён ужо летам з'явіўся на адным з пляжаў райцэнтра.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

Уладзімір Скрабатун

# “Такога ажыятажу мы, нават, і не чакалі!”

*Глыбоцкія школьнікі эвакуяваліся з задымленага аўтобуса, здавалі іспыты па ПДР і складалі на хуткасць слова “МЧС”.*

**У мэтах прафілактыкі і папярэджання дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму, асабліва пры перавозцы дзяцей-пасажыраў, а таксама ў мэтах далейшага развіцця двухбаковага міжнароднага супрацоўніцтва паміж Дзяржаўтаінспекцыяй Рэспублікі Беларусь і ДІБДР МУС Расійскай Федэрацыі з 20 па 30 красавіка на тэрыторыі Віцебскай вобласці прайшла прафілактычная акцыя з удзелам расійскага аўтобуса-трэнажора «Школа дарожнай бяспекі», які на сённяшні дзень застаецца ўнікальным сродкам навучання дзяцей асновам дарожнай пісьменнасці і прапаганды выкарыстання рамянёў бяспекі.**

27 красавіка на Цэнтральным пляцы Глыбокага было вельмі шматлюдна. Гучала музыка. З усіх накірункаў горада сюды – ад 3-х глыбоцкіх школаў – цэлы дзень, штораз, ішлі калоны вучняў.

Праходзіла мерапрыемства, арганізаванае абласным ДАІ. Вучняў навучалі правілам дарожнай бяспекі. Прыехаў адмысловы аўтобус – “Школа дарожнай бяспекі” – ад МУС Расіі. Спачатку падумалася: “А што тут робіць МУС Расіі, ці ў нас сваіх такіх “Школ дарожнай бяспекі” няма?” Аказваецца, як патлумачыў аўтару глыбоцкі інспектар ДАІ, такіх, падобных аўтобусаў, ва ўсім свеце – толькі тры! І адзін з іх прыехаў у Глыбокае.

Спецыялізаваны навучальны аўтобус прызначаны для правядзення заняткаў па практычным навучанні дзяцей асновам бяспекі дарожнага руху, а таксама паводзінам на дарозе. Ён навочна дэманструе дзеянне рамянёў бяспекі пры дарожнай аварыі або рэзкім тармажэнні. Для гэтага салон абсталяваны адмысловай сістэмай імітацыі адрыву сядушак у момант сутыкнення. Такім чынам, усе дзеці, прышпіленыя рамянямі бяспекі, «адчуваюць на сабе», што адбываецца падчас ДТЗ, калі пасажыры ці кіроўцы рамянямі не прышпіленыя. Пры гэтым усе дзеці «застаюцца на месцы», ніхто не атрымлівае траўмаў, толькі «лёгкі спалох». Манекен, змешчаны на пярэдняй сядушцы, не прышпілены рамянём бяспекі, у выніку руху крэслаў валіцца і «атрымлівае раненні».



Школа дарожнай бяспекі. Такіх аўтобусаў з трэнажорамі – усяго тры ў свеце. *Фота Ул. Скрабатуна.*

Акрамя таго, аўтобус укамплектаваны генератарам дыму для імітацыі задымлення салона. Інспектар ДАІ, акцэнтуючы ўвагу дзяцей на здарэнні, тлумачыць правілы эвакуацыі. У аўтобусе маюцца 2 плазменныя экраны для дэманстрацыі навучальных фільмаў. Такія навочныя і незвычайныя заняткі, якія праводзяцца ў гульнявой форме, нязменна спадабаюцца юным удзельнікам дарожнага руху.

Пры мне школьнікі арганізавана выбягалі з “задымленага” аўтобуса. На самой жа плошчы было арганізавана некалькі маршрутаў з перашкодамі, дзе школьнікі вучыліся фігурнаму кіраванню аўтамабіля ў складаных умовах, праўда, на роварах.

Побач школьнікі масава здавалі тэсты па правілах ПДР. Як адзначыў інспектар ДАІ: “Такога ажыятажу мы, нават, і не чакалі!”

Як далей адзначыў інспектар, гэты аўтобус праедзе па маршруце: Глыбокае-Лепель-Орша-Віцебск- Шуміліна-Полацк. То бок у дзень знаходжання аўтобуса “Школы дарожнай бяспекі” ў адным з вышэй названых гарадоў школьнікі з бліжэйшых райцэнтраў і сельскіх школ будуць пад’язджаць да іх.

Побач са “Школай дарожнай бяспекі” стаяла пажарная машына глыбоцкіх выратавальнікаў. Тут было не менш цікава. Можна было апрануць пажарную амуніцыю, прымерыць шлем выратавальніка і процігаз. А дзяўчаты ўпадабалі ў пальчатках складаць на хуткасць з запалак слова “МЧС”. Задача складаная! Трэба ж яшчэ не абы як, а роўна і без хібаў.

У прафілактычных мерапрыемствах з выкарыстаннем аўтобуса-трэнажора бралі ўдзел больш за 4 тысячы школьнікаў, а таксама выхаванцы дзіцячых дамоў усіх раёнаў Віцебскай вобласці.



Падвядзенне вынікаў здачы іспытаў па Правілах дарожнага руху сярод школьнікаў. *Фота Ул. Скрабатуна.*

27 красавіка на Цэнтральным пляцы ў Глыбокім цэлы дзень было шматлюдна. Прыйшлі не толькі вучні 3-х глыбоцкіх школаў, але прыехалі і вучні з сельскіх базавых і сярэдніх школаў. *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Насельніцтва Беларусі штомесяц павялічваецца на 114 чалавек

**Насельніцтва Беларусі за першыя тры месяцы 2016 года вырасла на 343 чалавекі. У выніку лічба дасягнула 9 498 700 чалавек. Гэта найбольшы паказчык з 2009 года.**

Белстат цяпер публікуе дэмаграфічныя дадзеныя штоквартальна, а не штомесяц, як раней. Атрымліваецца, што ў сярэднім насельніцтва Беларусі павялічваецца на 114 чалавек штомесяц.

Як дасягаецца гэта лічба? Натуральныя страты (розніца паміж народжанымі і памерлымі) штомесяц складаюць 807 чалавек. Затое за гэты ж час у краіну прыязджае 921 мігрант.

* * *

Найхутчэй колькасць насельніцтва расце ў Мінску. За першы квартал лічба вырасла на 3372 чалавекі і дасягнула 1 963 200 чалавек.

У сталіцы «аб’ядноўваюцца» і натуральны прырост (у сярэднім +297 чалавек на месяц), і міграцыя (у сярэднім +827 чалавек на месяц).

***ЯМ.***

# Павышаны памер БПМ

**У адпаведнасці з Указам ад 25.03.2016 г. №111 бюджэт пражытковага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва на перыяд з 1 сакавіка да 30 красавіка 2016 года ўстаноўлены ў памеры 1 640 000 рублёў.**

З улікам дадзенай велічыні за сакавік і красавік вылічваюцца памеры мінімальных працоўных і сацыяльных пенсій; надбавак, павышэнняў і даплат да пенсій; дапамог па доглядзе за інвалідам І групы ці асобай, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту; дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі ў выглядзе штомесячнай дапамогі; дапамогі на дзяцей (пры нараджэнні: першага дзіцяці—10 БПМ, другога і наступных—14 БПМ; па доглядзе за дзіцяінвалідам да 18 гадоў (1 БПМ), на дзяцей ад 3 да 18-ці ў перыяд выхавання да 3-х гадоў (0,5 БПМ), на дзяцей старэй за тры гады з асобных катэгорый сем’яў (0,5 БПМ, 0,7 БПМ).

Пераразлік у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне выконваецца аўтаматычна. Новыя (павышаныя) памеры за красавік і даплата за сакавік бягучага года будуць выплачаны ў красавіку асноўнай часці атрымальнікаў у адпаведны дзень выплаты пенсій (дапамог) і інш.

***Паводле БелТА.***

Сяржук Серабро

# Фэст «Звіняць цымбалы і гармонік» у Паставах абыдзецца бюджэту ў 230 мільёнаў рублёў

**Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта абвясціла тэндар на арганізацыю і правядзенне XIX Міжнароднага фэсту народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік».**

Гэты фэст народнай музыкі традыцыйна праходзіць у Паставах, сёлета ён адбудзецца з 10 па 12 чэрвеня. Пастаўчанаў і гасцей горада чакаюць літаратурнае свята і канцэрт аднага з замежных калектываў, конкурс «Хто каго?», канцэрт класічнай музыкі ў касцёле, гала-канцэрт удзельнікаў форуму. Таксама можна будзе наведаць горад майстроў і сельскія падворкі раёна. На свята павінны прыехаць самадзейныя артысты і калектывы з Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Славакіі, Украіны і Эстоніі.

Арыентыровачны кошт закупу, паводле дакументаў тэндара, складае 230 000 000 рублёў. Пры гэтым 80 000 000 падаецца рэспубліканскім бюджэтам, а 150 000 000 — абласным.

# Шчупак абышоўся браканьеру ў 4 млн.620 тысяч рублёў

**Май, апошні месяц вясны, цёпла і сонечна, прырода змянілася, ажыла, расквітнела. У выхадныя, святочныя дні народ масава пацягнуўся на адпачынак у лес, на возера, на прыроду, і гэта самыя "гарачыя" дні для работнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі.**

■ **А. Абрамчык,** *старэйшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслиннага свету*

Бо, не сакрэт, што культура нашых грамадзян яшчэ далёкая ад нармальнага чалавечага разумення. Пасля адпачынку грамадзян заўсёды знойдзеш кінутае смецце, непагашаныя вогнішчы, пустыя бутэлькі, нармальнай з'явай становіцца мыйка аўтатранспарту каля вадаёмаў, здабыча рыбы сеткамі. Але, у асноўным усе парушэнні грамадзянамі ігнаруюцца, няма рэакцыі на іх учыненне. Поўная абыякавасць, максімум, што могуць сказаць: "А вось, я ўчора бачыў як лавілі рыбу сеткай або кінулі смецце, але інспектараў не было." Наведваючы вадаёмы, інспектары пастаянна сутыкаюцца з рыбакамі, жадаючымі закінуць дзве-тры вуды ў перыяд вясновай забароны, ведаючы, што гэта забаронена і штраф за, здавалася б, дробнае парушэнне прадугледжаны ад 2 млн. 100 рублёў да 10 млн. 500 тыс. рублёў. Але ўсё роўна такія рыбачкі ёсць. А вось прыбраць смецце пасля сябе альбо пакінутае на беразе папярэднім рыбаком, гэта не, лепш буду сядзець у лайне з дзвюма вудамі, але прыбіраць не буду.

**Увага, рыбаловы, у п.98 Правілаў рыбалоўства сказана:**

***рыбаловы, якія ажыццяўляюць рыбалоўства, абавязаны – падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на іх берагах, а таксама на лёдзе смецце і іншыя адходы, не дапускаць засмечвання і забруджвання рыбалоўных угоддзяў іншым чынам.***

Гэта значыць, што месца лоўлі рыбы павінна быць прыбраным ад смецця незалежна, хто яго пакінуў. Вінаваты будзе той, хто ловіць рыбу.

Абмежаванні на лоўлю рыбы на тэрыторыі Віцебскай вобласці надышлі з 10 красавіка, але для браканьераў абмежаванняў няма. Гэтыя людзі робяць сваю чорную справу ў любы час года, у тым ліку і ў перыяд нерасту, але далёка не заўсёды ім сыходзяць з рук парушэнні.

5 красавіка 2016 года каля 19 гадзін супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ажыццяўлялі рэйдавыя мерапрыемствы на возеры Селішча Ушацкага раёна і звярнулі ўвагу на мужчыну на беразе возера, які, убачыўшы інспектара, паспрабаваў схавацца, але быў затрыманы. Пры даглядзе ў яго пры сабе былі знойдзены 2 асобіны шчупака, лоўля якога ў гэты перыяд быў забаронены. Затрыманым аказаўся "стары знаёмы" інспектараў, жыхар в. Слабодка Клочэк Уладзімір Іванавіч, які раней, у 2014 годзе, затрымліваўся інспектарамі. Клочэк У. І. патлумачыў, што шчупакоў злавіў рукамі, але раённы суд не паверыў "казачніку" і вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 25 базавых велічынь або 5 250 000 рублёў з пакрыццём прычыненай шкоды (за 2 шчупака) у памеры 3 990 000 рублёў. Вынік незаконнай рыбалкі – кожны шчупак абышоўся Клачку У.І. у 4 млн.620 тысяч рублёў.


Здымак з сайта інспекцыі

6 красавіка 2016 года супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі, знаходзячыся ў прыродаахоўным рэйдзе каля 21-й гадзіны на возеры Алойзберг Глыбоцкага раёна затрымалі жыхара Новай Вёскі грамадзяніна Кавалёва Валянціна Лявонцьевіча, які з дапамогай сеткі ажыццяўляў здабычу рыбы на возеры. Нягледзячы на тое, што рыбы ён здабыць не змог, адказнасці пазбегнуць не ўдалося. Раённы суд аштрафаваў Кавалёва В.Л. на 20 базавых велічынь або 4 млн. 200 тысяч рублёў. Характэрна, што Кавалёў ужо быў судзімы за незаконную здабычу рыбы, але, мабыць, урок не пайшоў на карысць. За наступнае затрыманне яму пагражае рэальнае пазбаўленне волі. Дык ці варта рыба пазбаўлення волі.

Не адрозніваюцца выкананнем закона і некаторыя нашы арандатары вадаёмаў. Так, 30 траўня 2016 года на возеры Бярозаўскае Глыбоцкага раёна затрыманы брыгадзір рыбалавецкай брыгады, у якога ва ўлове знаходзіліся 4 асобіны шчупака, лоўля якога ў гэты перыяд часу была забаронена. Раённы суд падвергнуў парушальніка штрафу ў памеры 25 базавых велічынь або 5 250 000 рублёў з пакрыццём прычыненай шкоды ў памеры 7 млн. 980 тыс. рублёў.

Гэта толькі тры дні працы інспектараў па ахове нашай прыроды. На жаль, парушальнікаў і браканьераў менш не становіцца, а абыякавасць людзей да браканьераў здзіўляе.

**Пра ўсе вядомыя і тыя, што ўчыняюцца, факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8- 02156 - 2-86-70 - кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.**

# Найбольшая колькасць правапарушэнняў звязана з незаконным вырабам алкагольных напояў

**Супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС на пастаяннай аснове арганізавана і праводзіцца работа па выяўленні парушэнняў антыалкагольнага заканадаўства.**

■ **Аляксандр Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

За чатыры месяцы 2016 года за парушэнні арт. 12.43 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях Рэспублікі Беларусь "Выраб або набыццё моцных алкагольных напояў (самагону), паўфабрыкатаў для іх вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу" і арт. 12.27 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях Рэспублікі Беларусь «Незаконныя перасоўванне, захоўванне тытунёвых вырабаў і алкагольных напояў, вытворчасць, перапрацоўка, захоўванне, перамяшчэнне нехарчовай спіртаўтрымліваючай прадукцыі, этылавага спірту, тытунёвай сыравіны, рэалізацыя гэтай прадукцыі, спірту, сыравіны і алкагольных напояў» складзена 29 адміністрацыйных пратаколаў, з незаконнага абароту канфіскавана 520,8 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў, самагону і самагоннай брагі і 11 самагонных апаратаў.




Найбольшая колькасць правапарушэнняў звязана з незаконным вырабам, захоўваннем і рэалізацыяй самагону і самагоннай брагі.

Так, грамадзянка Т., якая пражывае на тэрыторыі Зябкаўская сельсавета, за незаконны выраб самагону і самагоннай брагі, а таксама захоўванне па месцы жыхарства самагоннага апарата ў студзені бягучага года падвергнутая адміністрацыйнаму спагнанню ў выглядзе штрафу ў памеры 2 520 000 беларускіх рублёў з канфіскацыяй самагоннай брагі і самагоннага апарата.

Грамадзянін П. які пражывае на тэрыторыі Абрубскага сельсавета, за незаконны выраб самагоннай брагі, а таксама захоўванне па месцы жыхарства самагоннага апарата, а таксама грамадзянін А., які пражывае на тэрыторыі Азярэцкага сельсавета, за незаконнае захоўванне па месцы жыхарства самагоннага апарата, якія на працягу года ўжо прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці за такія ж правапарушэнні, у сакавіку бягучага года падвергнуты адміністрацыйным спагнанням ў выглядзе штрафу ў памеры 1 260 000 з канфіскацыяй самагоннай брагі і самагоннага апарата і 6 300 000 беларускіх рублёў з канфіскацыяй самагоннага апарата адпаведна.

Грамадзянін М., які пражывае ў г. Глыбокае, за незаконны выраб самагону, самагоннай брагі, захоўванне па месцы жыхарства самагоннага апарата і продажу 0.5 літра самагону за 50 000 беларускіх рублёў жыхару г. Глыбокае С. у красавіку бягучага года падвергнуты адміністрацыйнаму спагнанню ў выглядзе штрафу ў памеры 4 410 000 беларускіх рублёў з канфіскацыяй самагону, самагоннай брагі і самагоннага апарата, а грамадзянін С. за набыццё "гарачыльнага напою" падвергнуты адміністрацыйнаму спагнанню ў выглядзе штрафу ў памеры 210 000 беларускіх рублёў з канфіскацыяй самагону.



**Калі Вам што-небудзь вядома пра факты незаконнага вырабу і рэалізацыі алкагольнай прадукцыі – паведаміце па тэлефонах: АДС Глыбоцкага РАУС – 102, 2-27-02, 597-21-74 (МТС); 314-89-02 (Велком) ці УУС Віцебскага аблвыканкама – (8-0212) 23-81-73, 511-22- 16 (МТС); 314-08-63 (Велком).**



Віншаванкі

Наталлю Сядову

**Віншуем з Днём нараджэння!**

С Днем рождения, Наташа!
Поздравляем, радость наша!
Улыбайся, будь счастливой,
И веселой, и красивой,
С настроением дружи,
Не печалься, не тужи.



Пусть удача будет рядом,
Жизнь твоя – цветущим садом,
Пусть исполнятся желанья,
Будет мир и пониманье
И всё то, что хочешь ты...
Пусть исполнятся мечты!

*Ад калектыва "ВГ".*

# І зноў пра бяспеку!!!

**У раёне, як і па ўсёй краіне, у красавіку прайшла прафілактычная акцыя "За бяспеку разам", мэтай якой было павышэнне ўзроўню бяспекі насельніцтва.**

Так, мноства суб'ектаў прафілактыкі наведвалі прыватныя домаўладанні грамадзян, а таксама кватэры з мэтай праверыць супрацьпажарны стан домаўладання ў цэлым, даць рэкамендацыі па ліквідацыі выяўленых парушэнняў. Таксама пры выяўленні грубых парушэнняў работнікамі аддзела па надзвычайных сітуацыях складаліся пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях і адпаведна "выпісваўся штраф". Улічваючы, што дадзеная акцыя праводзілася ў час вясновага пажаранебяспечнага перыяду, то, вядома, асноўны акцэнт рабіўся на стан тэрыторыі і недапушчальнасць вясновых выпальванняў.

Па выніках праведзенай акцыі быў праведзены аналіз выяўленых парушэн-няў:

1. непадтрыманне ў спраўным стане ўстаноўленых аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў альбо іх адсутнасць;
2. дэмантаж прылад унутрыкватэрнага пажаратушэння альбо іх разукамплектацыя;
3. поўная адсутнасць першасных сродкаў пажаратушэння;
4. няспраўнасць ацяпляльных прыбораў або парушэнне правілаў эксплуатацыі (адсутнасць металічных лістоў перад печкамі на падлозе з гаручага матэрыялу або засланы паверсе яго дыван; складаванне дроў перад паліўнай адтулінай і каля печы; расколіны ў корпусе; неатынкаваны і непабелены комін у паддахавым памяшканні);
5. невычышчаная тэрыторыя ад гаручага смецця альбо сухой расліннасці;
6. парушэнне правілаў мантажу і эксплуатацыі электраабсталявання (абклееная або афарбаваная электраправодка; незакрытыя размеркавальныя скрынкі; адсутнасць ахоўных плафонаў на прыборах асвятлення);
7. курэнне ў жылых памяшканнях, пакінутыя малалетнія дзеці без нагляду дарослых.

Вядома, гэта далёка не ўсе парушэнні, якія ёсць у кожнага з нас дома, і ўсе яны павінны быць ліквідаваныя, каб пазбегнуць самай страшнай бяды – пажару... Бо нездарма ёсць прыказка – калі абрабавалі дом, то сцены застануцца, а пасля пажару не застанецца нічога.

*Інспекцыя МНС*

**МНС інфармуе**
**на 03. 05.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 238;
Гібель людзей – 39, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 8;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Зямля пад белымі крыламі

## У Росіцы прайшло свята буслоў

**У вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна 30 красавіка прайшло экалагічнае свята "Зямля пад белымі крыламі", якое было прысвечанае буслам.**

■ **Зміцер Лупач**

Ідэя правядзення такога свята належыць айцу Чэславу Курэчку, пробашчу касцёла ў Росіцы:

— Я выбраў бусла, бо гэта сімвал нашай краіны, нашай Беларусі. А я люблю гэтых птушак, іх у Росіцы шмат, бо ёсць возера, люблю за імі назіраць, рабіць для іх гнёзды. Таму і зрабіў такое свята веснавое, крыху смешнае, свята буслоў.

Распачалося свята канферэнцыяй "Экалогія сям'і", якую правёў айцец Віталь Сапега з Віцебску. "Бусел з'яўляецца сімвалам не толькі Беларусі, але і сімвалам сям'і, – адзначыў святар, – таму мы павінны бараніць беларускія сем'і ад усякага зла. Бо калі ў нас будуць моцныя сем'і, будзе моцная і краіна."

Далей у касцёле адбылася Імша, пасля заканчэння якой айцец Чэслаў запрасіў усіх у росіцкі клуб, дзе адбыўся канцэрт. Удзел у ім прыняў і сам святар, ён прачытаў урывак з паэмы "Новая зямля", прысвечаны буслам.

А пасля адбыўся пачастунак на свежым паветры. Гэтае месца айцец Часлаў назваў летняй кавярняй "У бусла", бо непадалёк ёсць буслянка.



Абед у летняй кавярні "У бусла".

# Электрабяспека пры выкананні рамонту электраправодкі

**Пры няправільнай эксплуатацыі электраправодкі або ў выпадку няправільнага мантажу, выбару ахоўных апаратаў, пашкоджанні ахоўных апаратаў і па іншых прычынах магчыма пашкоджанне элементаў электраправодкі - разетак, выключальнікаў, кантактных злучэнняў у размеркавальным шчыце і ў размеркавальных скрынках і г.д.**

■ **А.Н. Ішуцін,** *інспектар Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*



Пры наяўнасці адпаведных навыкаў і досведу правядзення электрамантажных работ няспраўнасці, якія ўзніклі, ухіляюцца самастойна, без прыцягнення спецыялістаў.

Вельмі часта ў сілу адсутнасці вопыту або пры нядбайным стаўленні не выконваюцца правілы электрабяспекі, што прыводзіць да ўдару токам у працэсе правядзення рамонтных прац. Таму, каб пазбегнуць узнікнення негатыўных наступстваў настойліва рэкамендуецца прыцягваць для ліквідацыі няспраўнасцяў электраправодкі кваліфікаваных спецыялістаў. Калі вы ўсё ж такі вырашылі ліквідаваць няспраўнасць самастойна, то неабходна асаблівую ўвагу ўдзяліць пытанню электрабяспекі.

Асноўнае правіла - поўнае абясточванне ўчастка электраправодкі, на якім плануецца правядзенне рамонтных прац. Перад непасрэдным пачаткам правядзення работ неабходна пераканацца ў тым, што напружанне сапраўды адсутнічае пры дапамозе адмысловага індыкатара і паказальніка напружання.

Праца пад напружаннем праводзіцца толькі ў тых выпадках, калі адсутнічае магчымасць абясточання ўчастка электрычнай сеткі і толькі пры наяўнасці спраўных, выпрабаваных электрахоўных сродкаў: дыэлектрычнага дыванка або электрычнай падстаўкі, інструмента з ізаляванымі трымальнікамі, дыэлектрычных пальчатак. Дадзеныя працы можа праводзіць толькі кваліфікаваны работнік, які мае адпаведную групу электрабяспекі і допуск да выконваемых работ.

Падчас узгарання электраправодкі неабходна памятаць пра тое, што тушэнне электраправодкі вадой забаронена да яе поўнага абясточання. Пад напружаннем электраправодку можна тушыць вуглекіслотнымі і парашковымі вогнетушыцелямі, якія маюць на корпусе маркіроўку «Е» або надпіс, якая сведчыць аб тым, што ім можна тушыць электраабсталяванне пад напружаннем з указаннем значэння напружання і мінімальнай адлегласці, з якой магчыма ажыццяўленне тушэння ўзгарання пры дапамозе дадзенага вогнетушыцеля. Як правіла, гэта напружанне велічынёй да 1000 В, адлегласць - не менш за 1 м. Таксама для тушэння электраправодкі, якая знаходзіцца пад напружаннем, можна выкарыстоўваць пясок.



